№ 20 (3965)
13 сакавіка 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ЗА ПРАХАДНОЙ

## Рабочы клас скарачаецца

Колькасць працуючых на беларускіх прадпрыемствах няўхільна памяншаецца. Да такой высновы прыйшлі сябры Беларускага прафсаюза работнікаў прамысловасці, калі падсумоўвалі вынікі працы за 2014 год. На апошнім пасяджэнні прэзідыума афіцыйнага прафсаюза была агучана агульная лічба – больш за 10 тысяч чалавек.

Лідарам стала ААТ "МАЗ" – там колькасць работнікаў зменшылася больш як на дзве тысячы чалавек. Крыху больш за 700 работнікаў сышлі з "Атланта", 420 – з Мінскага маторнага завода, 480 – з барысаўскага «Аўтагідраўзмацняльніка» і г.д. Што адбываецца?

**Віктар ЕЛІЗАРАНКА**, кіраўнік аддзела кадраў МАЗа, прадпрыемства, з якога звольнілася найбольшая колькасць працоўных, патлумачыў "Народнай Волі", што скарачэння штатаў не было, а людзі звольніліся па натуральных прычынах:

– Гэта натуральная цякучасць кадраў, якая існуе на кожным прадпрыемстве.

**– Людзі самі звольніліся?**

– Яны сышлі па натуральных прычынах. Нехта – па старасці, нехта знайшоў іншую працу. У нас няма скарачэння штатаў.

**– А новыя людзі прыходзяць уладкоўвацца на працу?**

– Зараз мы нікога не бяром у сувязі са скарачэннем аб'ёмаў вытворчасці. Толькі на нізкакваліфікаваныя месцы, дзе работнікі пазвальняліся. Калі нашы рабочыя не хочуць туды пераводзіцца, то набіраем новых. Напрыклад, працаваць штампоўшчыкам. Гэта цяжкая праца. Калі параўнаць з папярэднімі гадамі, то сёлета за студзень-люты народу менш звольнілася. Куды звальняцца? Няма куды ісці працаваць.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ВІЗІТ

## Кардынал-дыпламат



Учора пачаўся візіт у Мінск дзяржсакратара Ватыкана П'етра Параліна.

Дзяржсакратар – гэта кіраўнік дыпламатыі Ватыкана. Ён вядомы як асоба не толькі духоўная, але і палітычная.

Дзяржсакратар асвяціць першы камень новага будынка Апостальскай Нунцыятуры ў Мінску, возьме ўдзел у шэрагу сустрэч на самым высокім узроўні. Таксама кардынал П'етра Паралін наведае міждыяцэзіяльнае начное дбанне моладзі, якое пройдзе 14–15 сакавіка ў Мінскім касцёле Святых Сымона і Алены.

15 сакавіка кардынал узначаліць святую імшу з удзелам дзяцей у мінскім архікатэдральным касцёле Імя Найсвяцейшай Панны Марыі.

П'етра Паралін быў пасрэднікам у перамовах ЗША і Кубы, якія прывялі да аднаўлення дыпламатычных адносін між дзвюма краінамі. Ён таксама рабіў спробу пасрэдніцтва на перамовах між Нікаласам Мадура і венесуэльскай апазіцыяй, але гэтыя спробы выніку не далі.

Кіраўнік Касцёла на Беларусі мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч шчыра прызнаўся: «Мы хочам звярнуцца да кардынала П'етра Параліна з тым, каб ён перадаў нашу настойлівую просьбу – ад імя не толькі біскупаў, але і вернікаў, – каб Папа Францішак у сваёй праграме запланаваў і візіт у Беларусь». Без згоды афіцыйнай улады, як вы разумееце, такія прапановы не робяцца.

ЛІСТ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА



*Іосіф СЯРЭДЗІЧ*

# Дух Свабоды

Учора я вярнуўся з Вільнюса, дзе правёў некалькі дзён. Там жа быў і экс-старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч. Па запрашэнні Сейма мы бралі ўдзел у святкаванні 25-гадовага юбілею аднаўлення Незалежнасці Літвы.

Якія ўражанні?

Самыя станоўчыя.

Так, Літва – не райскі куточак з вечна квітнеючымі садамі і цукеркамі, якія самі падаюць у рот. Нягледзячы на тое, што ў Еўрасаюзе яна ўвайшла ў першую дваццатку па валавым прадукце на душу насельніцтва, праблем у яе пакуль больш, чым можна пераварыць. І гаспадарчыя справы ў многім не ладзяцца, і моладзь безупынна з'язджае на Захад, і хуткімі тэмпамі старэе насельніцтва, і не лепшы выгляд маюць некаторыя гарадскія кварталы, і экалагічныя выклікі не даюць спакою...

Балячак у Літве ніхто не дэманструе, але ніхто іх і не хавае. Краіна жыве па сваіх магчымасцях, з надзеяй, што ў рэшце рэшт дрэннае міне і жыццё палепшыцца... Галоўнае – не вяртацца назад, у імперыю пад назвай СССР.

Не, што ні кажыце, а літоўцы не падобныя на нас, цяперашніх беларусаў. Іх сёння не купіш таннай расійскай нафтай ці кавалкам варанай каўбасы. Яны згодны хадзіць па шчарбатых тратуарах, здавольвацца тым невысокім узроўнем дабрабыту, які маецца, але толькі б не пазбавіцца таго, за што змагаліся 25 гадоў таму! І не толькі 25 гадоў таму...

За свабоднае, вольнае жыццё яны, літоўцы, змагаліся на працягу ўсёй сваёй гісторыі. І тады, калі былі разам з намі, ліцвінамі, і пасля таго, як нашы пуцявіны разышліся.

Праязджаючы на машыне праз беларуска-літоўскую мяжу, што за Ашмянамі, я не-не ды і спыняюся ля шклянога мемарыяла, які ў нейкай сотні метраў ад апошняга шлагбаума. Не кожны беларус ведае, у памяць аб кім ён узведзены. Менавіта на гэтым месцы летам 1991 года прынялі жудасную смерць сем літоўскіх памежнікаў, мытнікаў і міліцыянтаў. З васьмі толькі адзін, цяжка паранены, выжыў. У тую кароткую ліпеньскую ноч нарад, які дзяжурыў на пераходзе Мядзінінкай – Каменны Лог, расстралялі бандыты-амапаўцы, кіруемыя з Масквы. Расстралялі, спадзеючыся на тое, што такім чынам запалохаюць літоўскі народ і ён спыніць барацьбу за выхад з СССР. Не запалохалі! Ды і наогул позна ўжо было страшыць. За паўгода да гэтага ён пацвердзіў, што голас Свабоды не заглушыць ніякімі выстраламі. Калі па злачынным загадзе з той жа Масквы пачаўся штурм тэлевежы, на вуліцы Вільнюса выйшлі сотні тысяч патрыётаў. Чатырнаццаццю жыццямі годных сыноў і дачок ахвяравала тады маленькая Літва, але Свабода была вырвана з лап крамлёўскіх імперцаў.

Адраджэнню Незалежнасці Літвы – 25 гадоў! Дух Волі, дух Свабоды жыве ў душы кожнага літоўца – ад чалавека сталага веку да дзіцяці. Вось бачу: на трыбуну падымаецца Лайма Андрыкене, якая 11 сакавіка 1990 года без ваганняў, хоць недзе ўнутры панавала трывога, паставіла свой подпіс пад гістарычным Актам аб аднаўленні Літоўскай дзяржавы. Адчуваецца, хвалюецца яна і цяпер. Але гэта ўжо не трывожнае, а радаснае хваляванне. Звяртаючыся да ўдзельнікаў урачыстага сходу, яна кажа: "Я ўчора і сёння зранку пабывала ў шэрагу працоўных калектываў, сустрэлася з жыхарамі некалькіх населеных пунктаў – размова ішла толькі пра Дзень Незалежнасці. Завітала ў дзіцячы садок – і, паверце, пяцігадовыя хлопчыкі і дзяўчынкі таксама ведаюць, якое сёння свята адзначае Літва".

Кранальна! Вось так нараджаецца заўтрашні дзень Літвы! Праз дух Свабоды, які пануе ў гэтыя дні літаральна ва ўсіх куточках краіны! У мяне слёзы міжволі наварочваліся, калі старшыня Сейма, мілавідная Ларэта Граўжыніене вяла цырымонію, якая ўмоўна называецца "Кветкі – героям!". Каля двух дзясяткаў маладых высакарослых, адзін у адзін парадных вайскоўцаў з вялізнымі кампазіцыямі натуральных кветак у руках выстраіліся перад сцэнай галоўнай залы Сейма, той залы, у якой 25 гадоў таму быў падпісаны гістарычны Акт аб адраджэнні Незалежнасці Літвы. Дыктар гучна аб'яўляе імя і прозвішча Героя, які аддаў жыццё за свабоду Літвы, месца яго пахавання. Пасля гэтага кветкі кладуцца на рукі старшыні Сейма, а ўжо з яе рук яны далікатна трапляюць на рукі землякоў славутых змагароў за народнае шчасце, якія разам з вайскоўцамі даставяць іх на магілы Герояў. Такім чынам 11 сакавіка 2015 года ў Літве былі ўшанаваны ўсе, хто здабываў Свабоду краіне, свайму народу. Кожнаму дэпутату, які 25 гадоў таму паставіў свой подпіс пад Актам аб аднаўленні Незалежнасці, але які не дажыў да сённяшніх дзён, былі ўскладзены кветкі ад удзячнай Літвы непасрэдна на яго магіле. Такая ж хвала была выказана і тым, чый прах знаходзіцца ў ваенных брацкіх захаваннях.

Цырымонія "Кветкі – героям!" закончылася на той жа ўрачыста-жалобнай ноце, як і пачалася. Але жыццё не спыніць, і ўсялякай пахвалы заслугоўваюць многія з тых, хто, як і Героі, што адышлі ў іншы свет, у свой час праявілі адвагу і мужнасць, адстойваючы свабоду для сваёй Радзімы. Вялізная парламенцкая зала літаральна ўзарвалася апладысментамі, калі да трыбуны падыходзіў легендарны Вітаўтас Ландсбергіс, прафесар ад навукі і патрыярх палітыкі. Дзесяць хвілін прамовы – і зноў шквал апладысментаў у знак удзячнасці за тое, што ён, першы спікер дэмакратычна абранага парламента, разам з некалькімі дзясяткамі аднадумцаў выратаваў Незалежнасць краіны.

Цяжка перадаць словамі адчуванні, якія я перажыў на другі дзень у Палацы Вялікіх Князёў Літоўскіх, дзе адбываўся дзяржаўны прыём у сувязі з 25-годдзем аднаўлення Незалежнасці Літвы. Баюся памыліцца, але мне здаецца, што за святочна афармленымі сталамі знаходзілася не менш за тысячу чалавек.

...На першых хвілінах у зале з'яўляецца прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайтэ. Спыняецца ля адной групы гасцей, ля другой, трэцяй, чацвёртай... Гутарыць, фатаграфуецца... Як быццам яна не прэзідэнт краіны, а звычайная гасцінная гаспадыня.

Крыху пазней пачынаецца ўзнагароджанне сігнатараў – тых дэпутатаў Сейма, якія тады, 11 сакавіка 1990 года, кінулі выклік савецкай імперыі, аб'явіўшы ўсяму свету, што Літва адраджае сваю Незалежнасць. Вось сапраўды: ніхто не забыты, нішто не забыта!

Так атрымалася, што я апынуўся за адным сталом з Юргісам Юргелісам, подпіс якога таксама стаіць пад Актам аб аднаўленні Літоўскай дзяржавы. Павіншаваўшы яго з памятным медалём, які ён толькі што атрымаў з рук сённяшняга старшыні Сейма, я як быццам між іншым пацікавіўся:

– Такая ўвага да вас, дэпутатаў Сейма, якім выпала доля вяртаць Літве Незалежнасць, толькі сёння, калі святкуецца юбілей, ці гэта ўжо своеасаблівая традыцыя?

– Хоць мы ўжо даўным-даўно не дэпутаты Сейма, але, заўважу, з'яўляемся членамі Клуба сігнатараў. Так называюцца ў нас тыя, хто паставіў подпіс пад Актам аб аднаўленні Незалежнасці Літвы ў той гістарычны дзень 11 сакавіка 1990 года.

Яны, тагачасныя дэпутаты Сейма, якія, у многім рызыкуючы сваім жыццём, вырвалі краіну з кіпцюроў савецкай імперыі, – таксама Героі. А значыць, ім не толькі павага, але і пэўныя ўзнагароджанні, даброты. Як маральныя, так і матэрыяльныя. Ад таго ж Юргеліса я даведаўся, што ён мае значную даплату да пенсіі за заслугі перад Літвой у адстойванні яе Незалежнасці.

Міжволі думкі вярнулі мяне ў Беларусь, у тыя часы, калі літаральна ўзрывалася ад эмоцый Авальная зала Дома ўрада, дзе праводзілі свае пасяджэнні дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га склікання. Пахвілінна помню той дзень, калі прымалася Дэкларацыя аб суверэнітэце Беларусі. Як і той дзень, калі была пастаўлена апошняя кропка ў галасаванні за новую Канстытуцыю. Жарсці не ведалі межаў, але здаровы сэнс узяў верх. Тады ўзяў, а вось пазней... З тых часоў, калі да ўлады прыйшоў Лукашэнка, пра Дэкларацыю "Аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь", лічы, ніхто з высокіх асоб і не ўзгадвае. Канстытуцыю, якая моцна паходзіла на канстытуцыі самых дэмакратычных краін свету, пакрэслілі так, што ўсё стала з ног на галаву.

А што з тымі дэпутатамі Вярхоўнага Савета 12-га склікання, якія, бывала, урукапашную кідаліся на праціўнікаў дэмакратыі, адстойваючы кожны пункт новай Канстытуцыі? Каго ўжо даўным-даўно няма ў жывых (Ганчара, Карпенкі, Булахава, Семдзянавай...), хто – за трыдзевяццю зямель (Пазьняк, Шарэцкі, Навумчык...). Астатнія – ізгоі ў сваёй краіне. Першы старшыня Вярхоўнага Савета суверэннай Беларусі Станіслаў Шушкевіч мае пенсію памерам крыху больш за тры тысячы беларускіх рублёў. Жабрацкая пенсія і ва ўсіх астатніх тагачасных сумленных дэпутатаў. Тыя ж, хто пазней здрадзіў Канстытуцыі, стаў па-халуйску служыць Лукашэнку, маюць у тры-чатыры-пяць разоў большыя пенсіі, чым дэпутаты-сігнатары, якія рызыкавалі многім пры змаганні за дэмакратычную Беларусь.

Не буду далей развіваць "хатнюю" тэму. Не хлебам адзіным жыве чалавек. Вернемся да рэалій суседзяў. На пачатку нататак я сказаў, што ў літоўцаў праблем вышэй галавы, але для іх дух Свабоды мае куды большы сэнс, чым усё астатняе. Менавіта такая думка мроілася ў маёй галаве і тады, калі я браў удзел у мерапрыемствах, звязаных са святкаваннем 25-х угодкаў адраджэння Незалежнай Літвы, і тады, калі ў вольны час проста гуляў па Вільнюсе. Амаль на кожным доме – жоўта-зялёна-чырвоны нацыянальны сцяг, вячэрняя ілюмінацыя на праспекце Гедымінаса – у выглядзе дзяржаўнай сімволікі. А можаце ўявіць літоўскі трыкалор даўжынёю ў дзвесце метраў – менавіта такі аграмаднейшы галоўны сцяг краіны трапятаў над галовамі моладзі на лёгкім ветрыку ад Сейма да Кафедральнага Сабора.

Дух Свабоды падтрымліваецца ў літоўскім народзе не толькі падчас святкаванняў. На яго нязгаснасць скіравана ўся дзяржаўная палітыка. У якой яшчэ краіне ёсць Дзень нацыянальнага касцюма? У Літве ён адзначаецца з гордасцю, з пачуццём гонару за родны край, за Радзіму. Я не мог адарваць вачэй ад здымка у Сейме, на якім Даля Грыбаўскайтэ з ног да галавы ў прыгожым нацыянальным строі. Вось бы Аляксандру Лукашэнку нашу беларускую вышыванку!

І апошні штрых да ўражанняў ад святкавання Літвой 25-гадовага юбілею аднаўлення Незалежнасці. Напярэдадні афіцыйных урачыстасцяў я выйшаў з Сейма на прылягаючую плошчу. Тры аркестры – Літвы, Латвіі і Эстоніі – праводзілі апошнюю рэпетыцыю. Загучаў гімн Літвы. Усе, хто праходзіў побач, спыніліся і сталі спяваць. Словы гімна ў Літве ведаюць усе, ад старога да малога.

Таму што яны, словы гімна, як і словы Акта аб Незалежнасці, пранізаны духам Свабоды. А гэта для любога літоўца з'яўляецца галоўным сэнсам жыцця.

ГРОШЫ

## Упершыню беларускія банкі выставілі курс канвертацыі еўра на долары 1:1



Тым, хто захоўвае грошы ў еўра, надышоў час хвалявацца. Еўрапейская валюта працягвае імкліва падзенне ў адносінах да долара. Па стане на ўчарашнюю раніцу сусветныя каціроўкі склалі каля 1,05 долара за 1 еўра.

Фінансісты прадказваюць, што неўзабаве валюты могуць дасягнуць раўнавагі, хаця яшчэ нядаўна еўра быў на 30 і больш працэнтаў даражэйшы за долар. «Беларускі народны банк» ужо ўчора раніцай выставіў курс канвертацыі еўра на долар 1:1.

У той жа час аналітыкі Deutsche Bank Робін Уінклер і Джордж Саравелас паведамілі, што, згодна з іх прагнозам, да 2017 года еўра ўпадзе ў адносінах да долара да 85 цэнтаў. Згодна з гэтым прагнозам, у бягучым годзе еўра захавае парытэт з доларам, у 2016 годзе будзе каштаваць 90 цэнтаў, а да 2017 года патаннее да 85 цэнтаў.

Асноўнай прычынай падзення еўра ў адносінах да долара спецыялісты называюць павелічэнне адтоку капіталу з Еўропы.

ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ

## Алтын ці еўраз?

*Расія хоча паскорыць працэс пераходу краін ЕАЭС на адзіную валюту. Беларускі рубель мае шанцы знікнуць*




«Банку Расіі сумесна з урадам РФ ва ўзаемадзеянні з цэнтральнымі банкамі дзяржаў-членаў Еўразійскага эканамічнага саюза вызначыць далейшыя напрамкі інтэграцыі ў валютнай і фінансавай сферах у рамках Еўразійскага эканамічнага саюза з прапрацоўкай мэтазгоднасці і магчымасці стварэння ў перспектыве валютнага саюза», – такое даручэнне днямі даў прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін. Расійскі рубель абваліўся, казахстанскі тэнге дэвальваваны, пра беларускі рубель і гаварыць не хочацца, бо нашы грошы – сусветны лідар нетрываласці. Дык навошта ствараць саюз кволых і нямоглых валют?

Прапануем меркаванні экспертаў з трох краін.

### *Аляксандр РАЗУВАЕЎ,*
*дырэктар аналітычнага дэпартамента «Альпары» (Расія):*

– Паўнавартасная эканамічная інтэграцыя немагчыма без адзінай валюты. У мінулым годзе ў Казахстане былі падпісаны дакументы па Еўразійскім саюзе. Яны прадугледжваюць стварэнне да 2025 года еўразійскага Цэнтрабанка і з'яўленне адзінай валюты для Беларусі, Расіі і Казахстана. Але знешнепалітычная сітуацыя, верагодна, паўплывала на эканамічныя рашэнні, і прэзідэнт Расіі вырашыў паскорыць гэты працэс.

Ідэя еўразійскай валюты, у прынцыпе, старая, яна была агучана Нурсултанам Назарбаевым яшчэ ў далёкім 1994 годзе. Новая валюта з працоўнай назвай "алтын" будзе вельмі падобная на расійскі рубель, бо эканоміка Расіі нашмат больш, чым эканоміка Беларусі і Казахстана. Я лічу, што ідэя еўразійскай валюты своечасовая. З майго пункту гледжання, новая валюта можа з'явіцца ўжо з 1 студзеня 2016 года.

### *Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ,*
*былы старшыня Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, доктар эканамічных навук, прафесар:*

– Гэтае пытанне даўно ставілася Пуціным у межах Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. А зараз ён ставіць пытанне шырэй – ужо ў межах Еўразійскага эканамічнага саюза, спрабуючы канчаткова аб'яднаць гэтае ўтварэнне адзінай валютай. Маё меркаванне заўсёды было такое: трэба арыентавацца ўсё ж такі на развіты цывілізаваны свет. Таму лічу, што прывязка эканомікі Беларусі і нашай банкаўскай сістэмы выключна да ўсходу – шкодная для краіны. Аднак калі выбар арыентацыі на ўсход для беларускай дзяржавы канчатковы, то стварэнне агульнай валюты, стварэнне валютнага саюза ўяўляецца цалкам рэальным. Іншае пытанне: пераход на адзіную валюту быў бы зразумелы, калі б мадэль эканамічнага развіцця, эканамічная палітыка ўсіх гэтых краін была цалкам інтэграваная. Пакуль гэтага няма. А стварэнне адзінай валюты – гэта вяршыня інтэграцыі. Але, не выключаю, што Уладзімір Пуцін кажа на гэтым этапе пра іншы валютны саюз – пра стварэнне ўзгодненых валютных курсаў, валютнай і грашова-крэдытнай працэнтнай палітыкі пры наяўнасці нацыянальных валют. Гэта таксама магчыма. Беларусь і Расія ўжо даўно па лініі цэнтральных банкаў маюць такое пагадненне, такі саюз. Таму трэба ведаць дэталі – якую мэту Пуцін паставіў перад сабой. Альбо ён хоча неадкладна ўвесці адзіную валюту і ціснуць, каб Беларусь і іншыя краіны не выпалі з зоны ягонага ўплыву. Альбо хоча рухацца ў кірунку стварэння валютнага саюза пры фармальнай наяўнасці нацыянальных валют. Жыццё пакажа.

### *Алжас ХАДАЙБЕРГЕНАЎ,*
*дырэктар Цэнтра макраэканамічных даследаванняў (Казахстан):*

– Калі гаворка ідзе пра тое, каб стварыць наднацыянальную валюту, то гэта можна абмяркоўваць, але калі гаворка ідзе пра тое, што наднацыянальная валюта заменіць наш тэнге, тады гэта будзе азначаць сур'ёзную эканамічную праблему. Лічу, што пакуль рана казаць аб адзіным валютным саюзе, паколькі для яго поўнага функцыянавання неабходна стварэнне адзінага фінансавага рэгулятара. А ён, згодна з Дамовай аб стварэнні ЕАЭС, павінен з'явіцца толькі ў 2025 годзе.

ТЫМ ЧАСАМ

Прапрацаваць пытанне далейшай інтэграцыі ў валютнай і фінансавай сферах Уладзімір Пуцін даручыў да 1 верасня гэтага года. Зараз абмяркоўваюцца дзве назвы новых грошай – «алтын», паходжанне якога каранямі сыходзіць у Залатую Арду, і «еўраз» – па аналогіі з еўра.

ВОПРОС ДНЯ!

## Что случилось с Путиным?

Вчера это стало самой обсуждаемой темой российских и зарубежных СМИ.

Таинственное исчезновение российского президента Владимира Путина, который с 5 марта не появлялся на публике, породило самую противоречивую информацию. Некоторые СМИ получили анонимное письмо, в котором утверждается, что у президента России случился ишемический инсульт. Интернет-СМИ тут же сообщили об этом, одновременно уточнив, что «информация от анонимных медработников ЦКБ может оказаться ложной».

И тем не менее последние события вокруг российского президента, а вернее – их отсутствие, не могут не настораживать. Так, неожиданно было объявлено, что саммит глав государств Евразийского экономического союза, намеченный на 12 марта в казахстанской Астане, отложен на неопределенный срок. Причем по данным, полученным британским информагентством Reuters от источника в дипломатических кругах Казахстана, «встреча трех президентов не состоится из-за болезни Владимира Путина». В то же время пресс-секретарь российского лидера Дмитрий Песков категорически опроверг сведения о плохом самочувствии своего босса. Однако предъявить общественности живого и здорового президента глава пресс-службы так и не смог.

Косвенно именно пресс-служба президента России внесла в происходящее еще большую интригу, опубликовав на официальном сайте Кремля информацию о рабочей встрече Владимира Путина с главой Республики Карелия Александром Худилайненом. К новости приложили фотографию, но впоследствии стало известно, что эта встреча состоялась еще 4 марта. Тогда же было сделано и фото, причем выражение лица Путина на ней является явно неестественным и даже болезненным.

Наконец, окончательно запутала общественность отмена запланированной на четверг торжественной церемонии подписания договора об интеграции между Россией и Северной Осетией. Владимир Путин должен был присутствовать на торжествах в Кремле по данному поводу, однако церемонию отменили, чем поставили в неловкое положение и протокольный отдел МИД России, и делегацию из Цхинвали, уже прибывшую в Москву. Зато пресс-служба Кремля сообщила, что состоялся телефонный разговор президента России с президентом Армении, что должно означать: Путин жив, здоров и работает.

Одним словом, интрига...

БЕЛАРУСЬ–ЕС

## Палітвязняў маюць на ўвазе?

Дэлегацыя Еўрапарламента па справах Беларусі можа наведаць Беларусь ужо ў чэрвені гэтага года. Пра гэта паведаміў старшыня дэлегацыі Богдан Здраеўскі.

– *Візіт, згодна з пажаданнем беларускага боку, папярэдне запланаваны на чэрвень гэтага года. Патрабуецца яшчэ пацвярджэнне з боку асоб, адказных за міжнароднае супрацоўніцтва ў Еўрапейскім парламенце. Гэта візіт, падчас якога будуць абмеркаваны пэўныя пытанні, датычныя малога памежнага руху, магчыма, таксама – аховы помнікаў ды іншыя,* – сказаў Богдан Здраеўскі.

Гэта будзе першы афіцыйны візіт дэлегацыі Еўрапарламента па справах Беларусі ў Мінск. Ранейшыя спробы дэлегацыі наведаць нашу краіну (калі яе ўзначальвалі Яцэк Пратасевіч і Філіп Качмарэк) не былі паспяховымі. Прычыны адмовы ў візіце не агучваліся, але неафіцыйна вядома, што беларускі бок не пагадзіўся на сустрэчу еўрадэпутатаў з палітычнымі вязнямі. Са слоў Богдана Здраеўскага можна зразумець, што зараз еўрадэпутаты такой сустрэчы не патрабуюць.

